


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

5 кастрычніка 2001 года

№ 40 (337)
Выходзіць па пятніцах

TV плюс

## Навіны рэгіёна

### Новы сыр

**АШМЯНЫ.** На сыраробчым заводзе з'явіўся новы від вытворчасці. Тут цяпер вырабляюць кілбасны сыр. Прадукт з'явіўся ўжо ў магазінах Ашмянаў і Смаргоні.
Прадпрыемства стварыла новыя рабочыя месцы. З сярэдзіны кастрычніка кіраўніцтва завода плануе адкрыць асобны цэх па вытворчасці сыру.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

### Даўгі за электраэнергію

**СМАРГОНЬ.** Ад пачатку года смаргонскаму РЭСу спажыўцы электраэнергіі вінаватыя звыш за 2800 мільёнаў рублёў.
Намеснік начальніка па збыце Смаргонскага раёна электрасетак **Віктар Урбанайць** адзначае, што асноўных даўжнікоў тры. РУП "Смаргонскі агрэгатны завод" вінаваты 440 мільёнаў рублёў, камбікормавы – 24, ліцейна-механічны – 14. Сюды трэба дадаць і неплацяжы насельніцтва.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

**АШМЯНЫ.** 1 кастрычніка заводу «Радыёдэталь» з-за запазычанасці адключылі электраэнергію. У выніку амаль 400 чалавек засталіся без работы.
Старшыня Беларускага прафсаюза работнікаў радыёэлектронікі **Генадзь Фядыніч** лічыць, што «Радыёдэталь» — зусім не банкрут. У прадпрыемства шмат даўжнікоў, найбуйнейшы — Мінскі трактарны завод (МТЗ), які атрымлівае ад ашмянцаў камплектуючыя. Паводле слоў Фядыніча, МТЗ мусіў пералічыць «Радыёдэталі» грошы, каб ашмянскі завод змог пагасіць свае даўгі перад энергетыкамі. Аднак падзеі ў Мінску 28 верасня, калі на МТЗ успыхнула стыхійная забастоўка у сувязі з затрымкай зарплаты, унеслі карэктывы ў сітуацыю: грошы пайшлі на выплату заработнай платы рабочым трактарнага завода.
Вымушаны прастой «Радыёдэталі» ўскладніць яго фінансавае становішча. Гэта пагражае праблемамі і для МТЗ, які пазбавіцца паставак камплектуючых.

**Па матэрыялах БелаПАН.**

### «Мадам «Беларустурыст»

**МЯДЗЕЛ.** На выхадныя на курорце праходзіў рэспубліканскі турыстычны злёт, прысвечаны 50-годдзю «Беларустурыста».
Было шмат мерапрыемстваў, конкурсаў, часта жартоўных. Прыкладам, удзельнікам давялося пабегаць на лыжах сярод нарачанскіх сосен. А ў конкурсе «Банкет–каша» трэба было здзівіць усіх фірмовай грэчкай. З натхненнем усе выбіралі і «Мадам «Беларустурыст».

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Новы прыпынак

**ВІЛЕЙКА.** Пачалося будаўніцтва новага чыгуначнага прыпынку ў раёне "Зеніта". Як расказаў начальнік чыгуначнага вакзала **Генадзь Рабы**, пабудаваная пасадачная платформа каля першага пуці, працягваецца работа каля другога. Таксама будуецца павільён і ставіцца агароджа. Работы вядзе ПМК-186. Па плане здача аб'екта – 25 кастрычніка.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

### Газіфікацыя Вілейшчыны

**ВІЛЕЙКА.** 1 кастрычніка пушчаны газ у 4 дамы (395 кватэр) па вуліцах Талстога і Гагарына.
На мерапрыемства прыехалі генеральны дырэктар Мінаблгаза **Леанід Рудзінскі**, прадстаўнікі Белпалівагаза, ААТ "Газбуд", будаўнікі, мясцовае кіраўніцтва.
Пасля ўрачыстага запальвання паходні адбыўся канцэрт, у якім узялі ўдзел аркестр пад кіраўніцтвам **Фёдара Гура** і мясцовая самадзейнасць. Сярод звыш як 100 гледачоў большасць складалі жанчыны.
Да 21 кастрычніка плануецца перавесці на газ увесь мікрараён, а гэта 2481 кватэра.

**Волга ПІЛІПЕНКА.**

### Надвор'е на выхадныя

**Субота, 6 кастрычніка**

**Мінск**
5 – 8°С (уначы)
12 – 14°С (удзень)



**Вільня**
7°С (уначы)
16°С (удзень)



**Нядзеля, 7 кастрычніка**

**Мінск**
8 – 10°С (уначы)
12 – 16°С (удзень)



**Вільня**
10°С (уначы)
16°С (удзень)



# Брычкі робяць у Альшэве



**Гэтая брычка ў Станіслава Сіманайця з Альшэва першая. На ёй ён як бы попыт вывучае.**

Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**МЯДЗЕЛ. Жыхар вёскі Альшэва Станіслаў Сіманайць узнавіў старадаўні промысел – робіць брычкі на продаж. А дагэтуль ён удала майстраваў калёсы. Куплялі і калгасы, і людзі на свае падворкі.**

Ацэньвае брычку ў долараў (калі перавесці з беларускіх грошай) гэтак 300. А калі тут ніхто не купіць, у Літву паедзе:

– Там яшчэ больш дадуць!

Пра перавагі свайго вырабу Станіслаў Сіманайць можа расказваць доўга. І драўляная частка ў яе цалкам з ясеню – не гніе, чарвяк яе не точыць, і рэсоры не аўтамабільныя, а сапраўдныя, старадаўнія.

– У старых яшчэ можна адшукаць такія. Едзеш, бывае, па вёсках, пытаешся: мо, аддасць хто?

Прызначанне брычкі бачыць найперш у турбізнесе. Яно, мусіць, невыпадкова, бо побач жа Блакітныя азёры.

– А што? Добрая была б забава для турыстаў – на брычцы іх на возера вазіць, – лічыць гаспадар.

– А самому на ёй даводзілася выязджаць?

– Быў нядаўна на фэсце ў суседняй вёсцы.

– І як людзі ўспрымалі?

– Добра, асабліва бабулькі: «Во гэта да!». Маладым то ўсё адно, ім машыны падавай. А вось старыя заўважаць – маладосць успамінаюць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

«Фотаапытанне маладзечанцаў

# Хто або што вас можа шакіраваць?



**Ірына Сахацкая, навучэнка музвучылішча:**

– Напэўна, гэта здрадніцтва блізкага мне чалавека. Якому вельмі давяраеш.



**Кацярына Клямяціч, 10-класніца САШМ:**

– Гэта бабкі, што сядзяць ля царквы на Старым Месце, і просяць міласціну. А ўвечары за імі іншамаркі пад'язджаюць. Пенсіі ды кватэры маюць, яшчэ вось такім чынам падпрацоўваюць.



**Ганна Нісула, Навучэнка Беларускага тэхнікума бізнесу і права ў Вілейцы:**

– Ніколі пра гэта не задумвалася. Мусіць, таму, што не было ў мяне ў жыцці такіх, так бы мовіць, экстрэмальных, крайніх сітуацый.



**Аляксандр Сіцько, пенсіянер:**

– Пенсіянера нічым не шакіруеш, усе мае здзяйсненні адзаду. Пенсіі на харчаванне хапае, займаюся будаўніцтвам (у мяне свой дом). А хто будуе – той жыве.



**Вячаслаў Крупец, пенсіянер:**

– Шмат у мяне ў жыцці чаго было. У асноўным, непрыемнага. Таму цяжка вылучыць «самае-самае». Апошнія гады ад актыўнага жыцця адышоў – на пенсіі. Шакіруе прэзідэнт сваімі прамовамі. Упасці пасля іх хочацца.

Шок, зразумела, выклікаў і тэрарыстычны акт у ЗША. Гэта самае моцнае.



**Валерый Зянько, ахоўнік:**

– Не задумваўся над гэтым. Прыемным уражаннем стала ў свой час нараджэнне дачкі. Калі і другая нарodзіцца – шокам гэта не стане. Усё адно падзея прыемная. І ўвогуле, наўрад ці што мяне можа шакіраваць, напэўна.

**Фотаапытанне падрыхтаваў Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**

■ ЛІКБЕЗ

# Бярыце, не пашкадуеце!

**МАЛАДЗЕЧНА. За звычайнай купляй на рынку чагосьці, скажам, з адзення, мала хто з нас згадвае пра сілу пераканання. Між тым, гэтым прыёмам карыстаюцца ці не ўсе гандляры. І часам мы купляем не зусім патрэбнае.**

Каб прадаць свой тавар, прадаўцы на рынку ідуць на ўсё: ад непрыхаванай ліслівасці да такой самай відавочнай маны. Збіраецеся вы, прыкладам, набыць скураное паліто ці куртку. Ці ведаеце, як адрозніць сапраўдную скуру ад "скуры маладога дэрмаціну"? А з якога боку і як разглядаць гэты тып тавару, на што звярнуць увагу?

Не? Тады вас сапраўды "абуюць у лапці" і панесяце вы дадому "ката ў мяшку". Хаця і самі, здаецца, яго выбіралі.

Пераканаць пакупніка ў неабходнасці тавару не такая ўжо і цяжкая справа, асабліва калі маеш патрэбны памер і фасон. Звычайна, гэта пачынаецца наступным чынам:

– Што вас цікавіць? Для вас ёсць курткі са свіной і цялячай скуры. Якая вам больш падабаецца – кароткая ці доўгая, тыпу "пілот"?

Зазначу, што свіная і цялячая скуры знешне выглядаюць амаль аднолькава, але трэба звяртаць увагу на колер і якасць выдзелкі. Цялячая скура звычайна таўсцейшая за свіную, яна больш мулкая і колер не такі "мутны", яна быццам "адшліфаваная".

Мала хто ведае, як куртка набывае аднолькавы колер, калі на ёй ёсць брак – акравак іншага адцення. Разгледзець добра гэта можна толькі пры добрым асвятленні, але не ў цяню. Каб дасягнуць "якасці", прадаўцы звычайна бяруць гуталін і зачышчаюць "пад колер".

Шмат браку можна знайсці, калі ўважліва зірнуць на скуру з унутранага боку. Там часам лепш заўважныя заклееныя скотчам дзірачкі. Калі ж вы раптам бачыце на скуры белыя ці блакітныя рысачкі, падобныя да крэйдавых, то не верце, што "яны лёгка змываюцца вадой". Наадварот, драпінкі не толькі застануцца, але з часам і павялічацца.

Часцяком на рынку можна пачуць:

– Будзеце браць – танней аддадзім!

Найчасцей такі прыём выкарыстоўваецца, калі куртка ці яшчэ што-небудзь на 2–3 памеры большае, чым патрабуецца.

Хаця хто лепш ведае тавар, той імкнецца не толькі найхутчэй збыць яго, але і як мага даражэй. На гэтым і трымаецца асноўны здабытак гандляроў.

**Тацццяна КВЕТНІКАВА.**



Фота IREX/ProMedia.

**Нават калі купляеце пад сценамі царквы, будзьце пільныя.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 27 верасня | 4 кастрычніка |
|---|---|---|
| Долар | 1476,00 руб. | **1482,00** руб. |
| Нямецкая марка | 697,05 руб. | **697,84** руб. |
| Літ | 369,07 руб. | **370,59** руб. |
| Расійскі рубель | 50,20 руб. | **50,28** руб. |
| Злоты | 348,62 руб. | **353,28** руб. |
| ЕЎРА | 1363,31 руб. | **1364,85** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1480 – 1500 руб. | **1480 – 1500** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 26.09 | 3.10 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2490 | 2500 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 8250 | 8250 |
| Сасіскі, 1 кг | 3100 | 3180 |
| Селядзец, 1 кг | 1750 | 1750 |
| Рыс, 1 кг | 530 | 530 |
| Грэчка, 1 кг | 400 | 420 |
| Цукар, 1 кг | 675 | 675 |
| Алей, 1 л | 1050 | 1040 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 680 | 650 |
| Маянэз, 200 г | 280 | 270 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1600 | 1600 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 550 | 550 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 490 | 500 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 400 | 320 |
| Капуста, 1 кг | 150 | 150 |
| Памідоры, 1 кг | 700 | 600 |
| Лімоны, 1 кг | 1550 | 1600 |
| Апельсіны, 1 кг | 1400 | 1350 |
| Кавуны, 1 кг | 300 | 250 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1300 | 1300 |
| Масла, 1 кг | 2400 | 2400 |
| Тварог, 1 кг | 800 | 1000 |
| Малако, 1,5 л | 400 | 400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1000 | 1400 |
| Бульба, 1 вядро | 1700 | 1600 |
| Морква, 1 кг | 300 | 300 |
| Журавіны, малое вядро | 4000 | 4000 |
| Яблыкі, 1 кг | 200 | 200 |

# Рынкі: перспектыва-2005

**СМАРГОНЬ. На чарговым пасяджэнні выканкома зацверджаная праграма развіцця рынкаў горада да 2005 года.**

Рэканструкцыя пачнецца з сучаснага рэчавага рынку па вуліцы Кутузава. Яго перанясуць на вуліцу Юбілейную.

Умовы работы рынку ва Усходнім мікрараёне пакідаюць жадаць лепшага. Плануецца абсталяваць тэрыторыю, якая б адпавядала санітарным умовам.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ЛІКБЕЗ

# На чужых памылках

● Забаўны інцыдэнт адбыўся ў Шаўляі, дзе жыхарка каля свайго прыватнага дома знайшла пакет з сумай ў 50 тысяч долараў. Яна сумленна здала грошы ў паліцыю і сама абвесціла аб знаходцы грамадзян. Тыдзень было ціха, потым аб'явіліся прэтэндэнты: нехта п'яны заснуў на лаўцы, і грошы вываліліся. На пытанне пра недэклараванне ў паліцыі было заяўлена, быццам грошы зробленыя прыватным прадпрымальніцтвам, але хаваліся ад жонкі. Па законе Літвы, калі на працягу 6 месяцаў ніхто не прад'явіць законныя правы на знаходку, то грошы будуць належаць таму, хто знайшоў іх. Падаходны падатак заплаціць, вядома, давядзецца. Але некаторыя газеты пачалі падазраваць жанчыну, якая знайшла пакет, быццам, менавіта так яна хоча легалізаваць свой "чорны нал". **Мараль**: калі знайшлі – маўчыце.

● Пасля аналізу дадзеных аб сямейным жыцці 37 тысяч чалавек, шведскія вучоныя прыйшлі да высновы, што верагоднасць разводу павышаецца, калі разводзіцца хтосьці з калег на рабоце. Разводы "заразныя" больш для мужчын, чым для жанчын. Хваля разводаў на рабоце можа ўзмацніцца і далей, таму што разведзеныя людзі часта шукаюць сабе новага кандыдата для сямейнага шчасця сярод калег. **Парада**: у сваім куратніку не мітусіся.

● Для аматараў тытунёвага замежнага дымку можа хутка пачацца праблема недахопу грошай, каб купіць пачак любімага LM або Bond. Беларускі ўрад часова, тэрмінам на тры месяцы, уводзіць спецыяльную мытную пошліну на імпарт тытунёвых вырабаў у памеры 30% ад іх кошту. Гэта павінна дапамагчы напаўненню бюджэту і абараніць айчынных вытворцаў. Палажэнні пастановы не распаўсюджваюцца на ўвоз цыгарэт з Расіі, для расійскіх фабрык гэта станецца карысным. Людзям са сродкамі, якія могуць дазволіць сабе купіць хоць і дарагія, але замежныя цыгарэты, **давядзецца плаціць больш.**

● У сувязі з невыкананнем плану па даходах, недаборам падаткаў, у IV квартале бягучага года магчымае скарачэнне фінансавання некаторых расходных артыкулаў бюджэту. У першую чаргу, гэта будзе тычыцца выдаткаў на фінансаванне рыначнай інфраструктуры. Так што **малому бізнесу будзе яшчэ горш.**

● Магчыма, у бліжэйшыя гады скароцяцца тэрміны вайсковай службы. Па праекце, пададзеным у Савет Міністраў, тэрміны тэрміновай вайсковай службы для ваеннаслужачых без вышэйшай адукацыі ў памежных і ўнутраных войсках складуць 18 месяцаў, для іншых ваеннаслужачых – 12, а для асоб з вышэйшай адукацыяй – 9 месяцаў. Аднак абавязковым будзе праходжанне тэрміновай службы ваеннаслужачымі, якія скончылі ваенныя кафедры. Ім давядзецца аддаць Радзіме 6 месяцаў. Увядзенне абавязковай вайсковай павіннасці дазволіць знізіць конкурс у ВНУ з ваеннай кафедрай: **прасяную ж кашу цяпер будуць есці ўсе.**

● З нагоды 10-гадовага юбілею беларускай мытні абнародаваныя цікавыя факты і дадзеныя яе дзейнасці. Дазорнымі папаўняецца чвэрць бюджэту краіны. Толькі сёлета выяўлена амаль 11,5 тысяч парушэнняў мытнага заканадаўства, ацэначная вартасць спагнаных ў даход дзяржавы маёмасці і тавараў склала 26,5 мільярдаў рублёў. Ёсць сярод супрацоўнікаў мытні і злоўжыванні службовай пасадай: за мінулы год заведзена 34 крымінальныя справы. Шматлікія перавозчыкі сала і іншых мясапрадуктаў з Польшчы, што акупавалі рэйсы Маладзечна–Беласток на працяглы перыяд, таксама маглі б многае расказаць пра добраахвотную дапамогу Радзіме пры ўездзе ў краіну дзякуючы падказцы супрацоўнікаў мытні. Грамадзянам нагадваем – **мытнікі пільныя**.

● Нечакана высокі аказаўся попыт насельніцтва на золата ў злітках. За першы месяц рэалізацыі Нацыянальны банк прадаў грамадзянам 400 зліткаў агульнай вагой у 9 кілаграмаў. Асаблівай папулярнасцю карысталіся злікі ў 1, 5 і 10 грамаў, але пайшоў і 250-грамовы злітак. Зліткаў дробнага наміналу не хапіла. Такі попыт будзе ўлічаны пры вырабе наступнай партыі. Магчыма, грамадзяне проста ўкладаюць у золата свае свабодныя грашовыя сродкі, каб застрахавацца ад рызыкі падзення курсу валюты. Да канца года **рэалізацыя золата** будзе адбывацца і ў раённых ўпраўленнях Нацбанка.

● Мінскія следчыя завяршылі расследаванне і перадалі ў суд крымінальную справу аб махлярстве ў адносінах дырэктара адной з турыстычных фірмаў, якая пад выглядам працаўладкавання за мяжой за 5 год абчысціла 60 чалавек на суму 38 тысяч долараў. Нягледзячы на шматлікія папярэджанні, у тым ліку, і нашай газеты, пра ўсялякае ашуканства, беларускія грамадзяне працягваюць **даверліва аддаваць свае грошы** за ілюзію райскага жыцця за мяжой.

● Не варта выконваць пажаданні шматлікіх рэкламных ролікаў і ісці ў бліжэйшы кіёск за "Балтыкай" ці "Клінскім" – менавіта да такой высновы прыходзіш пасля аналізу якасці расійскага піва. Па выніках маштабнай праверкі дзяржгандальінспекцыі, са 135 узораў 44 не адпавядалі патрабаванням стандартаў, у многіх узорах была заніжаная доля сухіх рэчываў, а ў піве "Толстяк доброе" былі нават знойдзеныя **бактэрыі кішэчнай палачкі**.

**Падрыхтаваў Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

# Мядзел цяпер з новым рынкам

**МЯДЗЕЛ. У райцэнтры адкрыўся новы рынак. Займае ён паўтара гектара зямлі, мае прыгожую агароджу і разлічаны пакуль на 409 месцаў: на палаткі і гандаль з машын. Будаўніцтва абышлося ў 70 мільёнаў рублёў. У далейшым плануецца ўзвядзенне побач мінірынку для продажу харчовых тавараў.**

Неабходнасць ў будаўніцтве рынку мелася: стары быў непрыстасаваны і малы. Прыкладам, у пятніцу – базарны дзень у Мядзеле – палаткі на ім не змяшчаліся, і гандляры займалі дарогі і газоны. Адно, што месціўся ён у самым цэнтры, а новы крыху наводдаль, але затое блізка да аўтавакзала.

Адкрыццё праходзіла з песнямі, багата было і пакупнікоў, і гандляроў. Некаторыя гандляры, каб заняць лепшыя месцы, прыехалі ў ноч перад адкрыццём. Начавалі нават у машынах.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# З якога гнязда вылецеў «Белы бусел»?

**Несумненна, адным з самых яркіх "шэдэўраў" у прапагандысцкай кампаніі, якую разгарнулі ўсе без выключэння дзяржаўныя СМІ на карысць свайго кандыдата ў прэзідэнты, стаў растыражыраваны амаль у чатырох мільёнах экземпляраў спецыяльны выпуск газеты "Советская Белоруссия" №255 ад 5 верасня 2001 г.**

Перш за ўсё, заўважым, што сам факт з'яўлення спецвыпуска "СБ" стаў грубейшым парушэннем беларускага выбарчага заканадаўства. Прэтэндэнт на пост прэзідэнта А. Лукашэнка выкарыстаў службовую пасаду для пазачарговай рэкламы сваёй перадвыбарнай праграмы, што не ўкладваецца ні ў адну з нормаў Выбарчага кодэкса. Па ацэнцы Беларускага Хельсінкскага Камітэта, выдаткі на выпуск і дастаўку тыража склалі 20 тысяч долараў, што намнога перавышае ліміт сродкаў, якія выдзяляліся кандыдату на вядзенне перадвыбарнай агітацыі.

Ужо аднаго гэтага факта было дастаткова для таго, каб зняць кандыдата, што праштрафіўся, з выбарчай гонкі. Аднак Цэнтральная выбарчая камісія не звярнула на яго сур'ёзнай увагі, палічыла, што бясплатнае распаўсюджванне сярод выбаршчыкаў расфарбаванай у чырвона-ружовыя колеры газеты не магло паўплываць на вынікі выбараў.

Але галоўнае ў спецвыпуску "СБ" – не форма, а змест. "Брыльянтам" прапагандысцкай PR-тэхналогіі з'явіўся двухпалосны артыкул "Операция "Белый аист" (иностранные спецслужбы – против Беларуси)". З якога ж гнязда прыляцеў да нас гэты "белы бусел"? Мяркуючы па падводцы да артыкула, матэрыял Паўлу Якубовічу, галоўнаму рэдактару вышэйназванай газеты, ласкава прадаставіў "влиятельный московский центр "Независимая политическая экспертиза".

Навошта ж хітраваць, Павел Ізотавіч? Ці ж вам не ведаць, што матэрыял гэты быў апублікаваны яшчэ 28 жніўня 2001 года ў 35-м нумары адыёзнай чырвона-карычневай расійскай газеты "Завтра", рэдактарам якой з'яўляецца вядомы "ленінец" Аляксандр Праханаў? Вось толькі падзагаловак артыкула чамусьці знік у "СБ". А ў тэксце арыгінала ён гучыць так: "В Совет Безопасности РБ. Конфиденциально".

Трэба прызнаць той факт, што "салідная газета", якой лічыць сябе "СБ", перадрукавала сумніўны па сваіх вытоках і паходжанні матэрыял з бульварнай камуністычнай газеткі. Але чамусьці, у парушэнне Закона аб друку, спасылкі на крыніцу галоўны рэдактар прэзідэнцкай газеты не зрабіў. Можа, забыўся ў выбарнай гарачцы?

У жыцці бывае так, што адзін учынак вырашае лёс чалавека. Пан Якубовіч і некаторыя яго загадчыкі даволі доўга, выкарыстоўваючы любую прычыну, заяўлялі пра сваю апалітычнасць. Навучалі журналістаў, што залішняя палітызаванасць выданняў адштурхоўвае чытачоў і не ўпрыгожвае газету. Можам павіншаваць Паўла Ізотавіча: ён уляпаўся не проста ў палітычную акцыю, а ў вельмі брудную палітычную акцыю. Адмыцца будзе вельмі складана, калі наогул магчыма.

Для поўнага ўражання "СБ" трэба было б перадрукаваць і перадавіцу з таго ж нумара "Завтра" пад заўчасна радасным загалоўкам "Лукашенко победит!". Аўтар перадавіцы – натуральна, Аляксандр Праханаў. Для таго, каб зразумець, пра што ён крычыць, дастаткова прыгадаць толькі некалькі радкоў: "В Беларуси приближаются выборы президента. Это не выборы, а война. Страшная, беспощадная, та, что разрушила Советский Союз, истребила великую цивилизацию...". І яшчэ: "Лукашенко сражается не только за Минск, Витебск, Полоцк. Он сражается за Смоленск, Москву, Красноярск. Он – последний рубеж, удерживающий дивизии НАТО. Последняя трахея, позволяющая дышать России".

Ды бог з ёй, з гэтай трахеяй. Паспрабуем разабрацца, што там такога канфідэнцыяльнага паведаміў А. Праханаў нашаму Савету бяспекі. Што і хто хаваецца пад таямнічым выразам "сообщает источник"?

Адно несумненна: калі матэрыялы ідуць з сумежнай дзяржавы, то лагічна заключыць, што на нашай суверэннай тэрыторыі вольна і беспакарана дзейнічаюць іншаземныя шпіёны. Тады дазвольце спытацца, дзе ж былі органы дзяржаўнай бяспекі? Куды яны глядзяць?

Цалкам верагоднай з'яўляецца і іншая версія: "белы бусел" пырхнуў з роднага беларускага гнязда. У такім выпадку, гэтыя звесткі здабываліся ў ходзе сакрэтных мерапрыемстваў, што праводзіліся беларускімі спецслужбамі. І зноў жа паўстае пытанне: хто перадаў сакрэтныя дакументы ў Расію і канкрэтна А. Праханаву?

І ў адным, і ў другім выпадку, калі цвёрда следаваць літары закона, мы маем справу з пачварнымі фактамі парушэння Закона аб аператыўна-вышуковай дзейнасці. Раскрыўшы іх, "СБ" парушыла не толькі арт. 5 Закона аб друку, за што безумоўна павінна атрымаць папярэджанне ад Дзяржкамітэта па друку, але і пераступіла норму крымінальнага заканадаўства, якое ўстанаўлівае сур'ёзную адказнасць за раскрыццё дзяржаўных сакрэтаў.

Але самае пікантнае ва ўсёй гэтай гісторыі тое, што ніякіх сакрэтных паведамленняў у гэтым артыкуле няма і ў паміне. Усё, пра што "сообщает источник", ніколі і нідзе не хавалася ад грамадскасці. Больш за тое, пра многія "секретные встречи" супрацоўнікаў Кансультатыўна-назіральнай групы (КНГ) АБСЕ з прадстаўнікамі беларускай апазіцыі пісалася на старонках незалежных выданняў.

Для нас – экспертаў па СМІ пры Кансультатыўным савеце апазіцыйных палітычных партый – асабліва цікавым было "сообщение источника" пра нейкую сустрэчу групы экспертаў, у ходзе якой абмяркоўваліся напрацоўкі пра дзейнасць СМІ. Мы доўга ўспаміналі, дзе і калі адбылася такая сустрэча. І ўспомнілі. Года паўтара таму, яшчэ да "парламенцкіх" выбараў, мы рыхтавалі рэкамендацыі для Кансультатыўнага савета пра тое, як найбольш эфектыўна можна выкарыстоўваць сродкі масавай інфармацыі, у першую чаргу, дзяржаўныя, для вядзення агітацыйнай работы. Паслу Хансу Георгу Віку эксперты па СМІ нічога не дакладалі з той прычыны, што нашы прапановы разглядаліся выключна на пасяджэннях Кансультатыўнага савета.



Фота IREX/ProMedia.

Дзе ж той бусел гняздуе?

Незразумелым для нас застаецца тое, навошта і якому "вуху" спатрэбілася шпіёніць за сваімі грамадзянамі. Калі кагосьці разбірае вялікая цікаўнасць або жаданне ўсё ведаць, калі ласка за "круглы стол" перагавораў. Дарэчы, у перыяд нашых кансультацый з урадавым бокам па пытанні аб допуску апазіцыі да дзяржаўных СМІ цікаўныя маглі наслухацца такога, што ім хапіла б на цэлую чараду "белых буслоў". За адным разам яны змаглі б прыціснуць і сваіх прадстаўнікоў, таго самага Паўла Ізотавіча Якубовіча, які браў актыўны ўдзел ва ўказаных кансультацыях.

Дык навошта ж, з якой мэтай вылецеў з гнязда "белы бусел"? Якое "дзіця" ён нёс у дзюбе? Адказ відавочны: трэба было выліць паболей бруду на дэмакратычных апанентаў цяперашняй улады ды яшчэ раз расказаць пра "подрывную деятельность" адной з самых паважаных у свеце міжнародных арганізацый – АБСЕ, у склад якой уваходзіць 53 еўрапейскія краіны, ЗША і Канада.

У выніку атрымалася з дакладнасцю наадварот і ў поўнай адпаведнасці з прыказкай: не плюй у калодзеж – спатрэбіцца вады напіцца. Гэты момант ужо надышоў: старая-новая ўлада пакутуе ад смагі, ёй хочацца ўстанавіць канструктыўныя адносіны з апляванымі ёю ж еўрапейскімі структурамі. Застаецца толькі здзіўляцца цярплівасці еўрапейцаў, якія, нягледзячы ні на што, яшчэ не грукнулі дзвярыма, ды так, каб тынкоўка пасыпалася. Тлумачэнне гэтаму ёсць: цывілізаваныя людзі проста шкадуюць беларускі народ і не хочуць пакінуць яго сам-насам з эксперыментатарамі "рыначнага сацыялізму".

Першым пабуджэннем экспертаў па СМІ пасля азнаямлення з "конфиденциальной информацией" пад кодавай назвай "Белы бусел" было неадкладна звярнуцца ў следчыя і судовыя органы. Але, памеркаваўшы, мы зразумелі ўсю бесперспектыўнасць гэтай задумы. У нашай краіне так званыя дзяржаўныя СМІ ўжо даўно дзейнічаюць па-за рамкамі закона і знаходзяцца пад асаблівай апекай групы ўлады. Пад тым самым дахам аказаліся і праваахоўныя органы, і суды. Усе яны скаваныя адным ланцугом.

Бадацца з дубам – справа колькі клапотная, столькі і безнадзейная. Да таго ж, мы не хочам рабіць замах на сродкі "СБ", так неабходныя ёй для стварэння іміджу "саліднай" газеты, і на жалаванне простага дзяржаўнага служачага Паўла Ізотавіча Якубовіча.

Час расставіць усё па сваіх месцах. Млын гісторыі меле марудна, але верна. І схаваць праўду ад грамадства яшчэ не атрымлівалася ні ў каго.

**Міхаіл ПАСТУХОЎ, Юрый ТАПАРАШАЎ, эксперты па СМІ пры Кансультатыўным савеце апазіцыйных палітычных партый.**

---

**■ ЖАНОЧЫ РУХ**

## У Камарове жанчыны аб'ядналіся

МЯДЗЕЛ. Ад пачатку года ў раёне працуе грамадскае аб'яднанне «Жанчыны за адраджэнне Нарачанскага краю». Цэнтр яго – у вёсцы Камарова Свірскага пассавета, а прэзідэнтам абралі выкладчыцу мясцовага сельскагаспадарчага ліцэя **Алу Вайцяховіч**.

**– Як з'явілася ідэя стварыць такое аб'яднанне?**

– Даўно збіраліся нешта такое зрабіць, каб цікавей жанчынам у вёсцы было жыць. У мужчын заўсёды ёсць свой інтарэс, час, каб сабрацца разам, пагутарыць. А ў нас – сям'я ды работа. Вось сабраліся жанчыны з ліцэя і вырашылі стварыць аб'яднанне. Увосень ужо была канкрэтная задума, пачалі цікавіцца, як працуюць аналагічныя арганізацыі.

**– Якія мэты перад сабою ставіце?**

– Нашая назва адпавядае і нашым мэтам. А гэта – адрадзіць культурныя і духоўныя традыцыі Нарачаншчыны, яе экалогію, стварыць новыя рабочыя месцы, дапамагчы жанчынам адкрыць прыватныя прадпрыемствы. Удзельнічаем у праекце па адраджэнні графскага парку ў Камарове, ўзнаўленні парод дрэваў, што тут былі. Гэты праект падтрымала карпарацыя ISAR.

Ужо ачысцілі частку тэрыторыі парку, высеклі хмызняк, зрабілі «альпійскую горку». На чарзе – другая стадыя праекта.

**– Сябры аб'яднання не толькі ўдзельнічаюць у розных семінарах і трэнінгах, але і самі такія праводзяць на месцы?**

– Так. Хто дзе быў, дзеліцца досведам. І сюды, у Камарова, прыязджаюць праводзіць разнастайныя трэнінгі спецыялісты са сталіцы. Запрашаем на гэткія мерапрыемствы і мясцовых жанчын, якія цікавяцца нашай арганізацыяй.

**– Чаму менавіта вы ўзначалілі арганізацыю?**

– Муж мой, Эдуард, – энтузіяст. Кіруе ліцэем, мяркуе на перспектыву і імкнецца нешта зрабіць. Можа, гэта ад яго. А можа, час прыйшоў час праявіць сябе: дзеці ўжо падраслі, у хаце і каля хаты – усе як мае быць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

---

**■ НАША ГІСТОРЫЯ**

## Аляксандар Уласаў

**Я належу ўжо да старэйшага пакалення й барабаню пра беларусаў гадоў 50. Усе нашыя павадыры на беларускай справе кар'еры не зрабілі. Жыццё іх горкае, мучаніцкае, і ідуць яны не па кветках, а па калючках.**

Нарадзіўся А. Уласаў 16 жніўня 1874 г. у вялікай сям'і паштовага служачага. Вучыўся ў рэальным вучылішчы, Рыжскай Палітэхніцы, навучанне ў якой ўскладнялася ўдзелам у рэвалюцыйным руху.

У 1906 г. ён разам з братамі Луцкевічамі заснаваў легендарную "Нашу Ніву", і да 1912 г. рэдагаваў і выдаваў яе. Выданне газэты вымагала значных выдаткаў, таму нярэдка Уласаў укладаў у выданне газеты ўласныя прыбыткі, атрыманыя з фальварка Мігаўка пад Радашковічамі.

*З тым фальваркам звязана мноства цікавых і анекдатычных гісторый. Аляксандар Уласаў, маючы атлетычную фігуру і высокі рост, любіў хадзіць па фальваркавым садзе ў адных трусох, наводзячы жах на наведвальнікаў такім выглядам. (Пурытанскія норавы былі напачатку стагоддзя!) У ягоным доме заўжды было шмат гасцей, якіх ён прымушаў займацца на спартовых трэнажорах, што стаялі ў садзе. За абедзенным сталом ён прыгаворваў:* "А Божа ж мой, не ешце гэтак шмат, гэта ж вы мяне зруйнуеце!" *Жартаваў, канечне.*

У 1912 г. А. Уласаў пакінуў месца рэдактара "Нашай Нівы", пераехаў у Менск і распачаў рэдагаванне часопісу для сялянаў "Саха". "Што трэба для заснавання новага перыядычнага выдання?" Рэцэпт быў просты: "Пакой, колькі скрынак замест крэслаў, прымус, чайнік і паболей энтузіязму!". А з 1914 г. Уласаў, карыстаючыся гэтай формулай, пачаў выдаваць часопіс для моладзі "Лучынка".

У 1919 г. ён вярнуўся ў родную Мігаўку, што, згодна з Рыжскай мірнай дамовай, адышла да Польшчы. Уласава абралі ў Польскі Сенат, дзе бараніў правы беларускага народу. Ён не адносіў сябе ні да камуністаў, ні да хрысціянскіх дэмакратаў, але яму давяралі ўсе. Уласаў арганізаваў беларускую гімназію ў Радашковічах і інтэрнат для навучэнцаў, у што ўклаў нямала ўласных сродкаў і здароўя.

У Мігаўцы і Радашковічах з моладзю ставіў спектаклі, ладзіў святы. Праводзіліся нават конкурсы на самую прыгожую дзяўчыну. Знакаміты энтузіязм Аляксандра Уласава значна знізіўся пасля таго, як польскія ўлады зачынілі гімназію.

...Напэўна, таму ён прыхільна сустрэў у верасні 1939 г. "чырвоных братоў" з усходу. Спадзяваўся, што ягоная саракагадовая праца на карысць Беларусі будзе аддзячаная. Памыліўся, бо "чырвоныя браты" аказаліся звычайнымі бандытамі.

У кастрычніку 1939 г. Уласаў выбраўся ў Маладзечна, каб уладкавацца на работу ў мясцовую газету. Трэ было напісаць аўтабіяграфію. Ён апісаў удзел у беларускім незалежніцкім руху. 17 старонак аказалася дастаткова для арышту па абвінавачанні ў нацыянал-фашызме. Памер Аляксандр Уласаў 11 сакавіка 1941 г. па дарозе ў канцлагер на станцыі Марыінск Новасібірскай вобласці.

Яго жонка Аляксандра насіла ў Маладзечанскую турму перадачы і заўсёды пыталася ў ахоўніка пра здароўе мужа. Турэмшчык перапытваў: "Уласаў? Такі вялікі, вусаты? Ды з ягоных жартаў рагоча ўся камера!"

**Алег ГАРДЗІЕНКА.**

# ВІНШАВАНКІ

Любімую **Танечку**
віншую з днём нараджэння!
Сегодня день такой чудесный,
Должны быть шутки, смех, цветы.
Чтоб поздравления звучали —
Ведь в этот день родилась ты.
Мне хочется, чтоб жизнь твоя катилась,
Как ручеек меж теплых берегов,
Чтоб горе и несчастье не случилось,
Чтоб не водилось недругов, врагов.
А счастья чтоб изведать в полной мере,
С пути не сбиться, дружбой дорожить.
Пусть вечно длятся и любовь, и вера,
И та дорога, что зовется жизнь.
*Валодзя.*

Сардэчна віншую **Сяргея Путрыча** з днём нараджэння! Жадаю моцнага здароўя, шчасця, вялікага кахання, добрага настрою. *Іна.*

Віншуем нашага любімага **Уладзіміра Шафаловіча** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у працы. *Людміла, Сяргей, Алена.*

**Віталіне Валер'еўне Мяльніцкай.** Віншуем з днём нараджэння, дарагая дачушка! Жадаем усіх даброт, удачы. *Тата, мама.*

Паважаны **Сяргей Мікалаевіч Марчанка**, віншуем з 30-годдзем! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, кахання, дабрабыту. *Калегі.*

З 55-годдзем, дарагая бабуля і матуля **Соф'я Жукоўская**! Няхай з табой будзе здароўе і сіла. Жыццё няхай будзе доўгім, шчаслівым. *Родныя.*

**Валодзю Жукоўскаму.** Жадаем шчасця, здароўя без лекаў, дабра і спакою, і доўгага веку. Віншуем і любім цябе. *Твая сям'я.*

**Аляксандру Ромышу.** Каханы, віншую з днём нараджэння! Няхай жыццё будзе такім, якога ты сабе жадаеш. *Аксана.*

**Педкалектыву СШ №4 г. Маладзечна.** Паважаныя настаўнікі, са святам! Зычым здароўя, шчасця, разумных і паслухмяных вучняў. *Вучні 5"А" класа і іх бацькі.*

Віншуем з Днём настаўніка класнага кіраўніка **Валянціну Віктараўну Конан**! Усяго вам найлепшага! *Ваш 11"В" САШМ выпуску 2001 г.*

Віншуем дарагую маці і жонку **А. І. Карніловіч** з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, кахання. *Родныя.*



# ЗНАЁМСТВЫ

47/172/78. Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з жанчынай ад 40 да 50 год, якая згодная на пераезд у прыватны р-н. Дзеці не перашкода. Маладзечна-1, п/п МС0591955.

Інвалід 2 гр., 32 гады, з жыллём, спакойны, без шк/зв., пазнаёміцца з дзяўчынай для стварэння сям'і. 222310, Маладзечна-7, МС0487030.

Жанчына 47/156/60, якой надакучыла адзінота, спадзяецца сустрэць надзейнага мужчыну для сямейнага жыцця. Маладзечна-6, п/д С 158891.

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон** 40

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».
Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.
Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно



**ПРАВІЛЬНЫ АДКАЗ** на мінулае пытанне далі **Людміла Кендыш і Юрый Мінец**. Згаданы нямецкі прадпрымальнік з дапамогай радкоў А. Пушкіна меркаваў рэкламаваць гуталін для абутку: «Яснее дня, чернее ночи...» Магчыма, гэта ў яго атрымалася.

**НАСТУПНАЕ ЗАДАННЕ** не будзе складаным. Нягледзячы нават на тое, што гаворка ідзе пра слова з арабскай мовы. У перакладзе яно абазначае «шлях, накірунак». Тлумачальны слоўнік – арабскай мовы, натуральна – дае яму такое азначэнне (прашу прабачэння за пераклад): «вугал паміж плоскасцю мерыдыяна пункту назірання і вертыкальнай плоскасцю, што праходзіць праз гэты пункт і праз свяціла або зямны прадмет».

Назавіце ўсё гэтае арабскае красамоўства адным словам.

Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (па сераду ўключна) і прыходзьце па запрашальны білет на 2 асобы на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры «Радзіма».

**Лявон ІНЕТНЫ.**

■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

## У белай скрыні ёсць усё

Расказваў знаёмы. Ён колькі дзён вымушаны быў бавіць час у бальніцы, а туды, як вядома, касяком ідуць сваякі, радня, знаёмыя хворых. І, адпаведна, цягнуць усялякую ежу. Як водзіцца, для хуткапсавальных прадуктаў на калідоры стаяў у іх халадзільнік.

А ў гэты ж час на іхнім паверсе ляжала старая з вёскі. Год пад 80. Прыйшлі і да яе сваякі. Паесці прынеслі. Тут яна і выдала (гаворка ішла ў холе паміж палатамі):

– Няварта прадукты прыносіць. Тут у бальніцы ёсць такая вялікая белая скрыня. Там заўсёды ўсяго багата.

Рэакцыю тых, хто чуў, уявіць няцяжка. Яны ўжо з тыдзень не далічваліся некаторых прыпасаў.

Зрэшты, падаецца, што выпадак не такі ўжо і адзінкавы. Цяпер некаторыя – асабліва людзі сталага веку і адзінокія – ў бальніцу кладуцца, каб хаця нешта было пад'есці.

**Сямён РАБІНОВІЧ.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Рыбны пірог



**2 лыжкі маргарыну, 1 шклянка малака, 70 г надзертага сыру, 2 лыжкі тамату-пюрэ, 2 яйкі, 500 г рыбнага пюрэ, алей, перац, соль.** Распусціце на патэльні 2 лыжкі маргарыну і развядзіце шклянкай малака, дадайце надзерты сыр, 2 лыжкі тамату-пюрэ, прыпраўце перцам і пасаліце, змяшайце з 2 узбітымі жаўткамі. Атрыманым соусам заліце 500 г нарэзанага кубікамі і тушанага ў алеі рыбнага філе. Затым дадайце ўзбітыя бялкі 2 яек і перакладзіце масу ў змазаную алеем форму. Запячыце пірог у духоўцы, пакуль паверхня не зробіцца залацістая. Пірог можна ўпрыгожыць скрылькамі лімона.

## Гогаль-могаль

**2–3 яйкі, 100 г цукру, 3 шклянкі вішнёвага (фруктовага) соку, 50 г арэхаў, лімонная цэдра.** Жаўткі расцерці з цукровай пудрай і лімоннай цэдрай у пышную масу, затым, пастаянна ўзбіваючы, дадаць малако, сок, перамяшаць з узбітымі бялкамі. Напітак разліць у высокія шклянкі, зверху пасыпаць сечанымі арэхамі.

■ ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

**Дасылайце цікавыя выпадкі з каляспартыўнага жыцця, сведкамі якіх вы былі апошнім часам.**



Нядаўняя таварыская гульня ФК "Маладзечна-2000" з "Металургам-91" мусіла па азначэнні стаць камедыяй. Такая яна і была, але не ўсе адразу зразумелі. Да аматараў футбола, што сабраліся на трыбунах, гэта даходзіла паступова.

Шумная падтрымка сучасных футбалістаў напачатку неўзабаве змянялася расчараванасцю. **Турчыновіч** "па-піжонску" спрабуе перакінуць мяч над **Абрамовічам**, **Вільтоўскі** замест удару з добрай пазіцыі робіць прастрэл на вуглавы, дзе нікога няма...

Нарэшце, адзін хлопчык не вытрымлівае:

– Аказваецца, матч несапраўдны...

Лік 2:2, пенальці. Старэйшыя забіваюць і мусяцьперамагчы. Усе ўжо сабраліся іх віншаваць, але на варотах **Макс Асадоўскі** (ён, відаць, не прадаецца). Ізноў нічыя, а біць ужо няма каму. Значыць, нічыя – 5:5. Па пенальці. Таксама бывае.



Дублёры – народ малады. Мары там усялякія фантастычныя ў галаве яшчэ, гуляць хочацца за мяжой. Маладзечанскі дубль, зразумела, не выключэнне. Яшчэ ў першым крузе быў адзін абаронца, які амаль паўгода чакаў сустрэчы з БАТЭ.

– Ведаеце, – разважаў хлопец, – там **Юрый Пунтус** галоўны трэнер, па-першае, БАТЭ, па-другое, там маладзёжная зборная недалёка. Добра згуляю ў Барысаве...

Размова яшчэ працягвалася.

Але матч прайшоў, а Юрый Пунтус малады талент не заўважыў. І хлопец пайшоў вучыцца, паступіў у ВНУ, кінуў футбол. А дарэмна. Пачакаў бы крыху. У "Дынама" (Мінск) прыйшоў **Эдуард Малафееў**. Глядзіш, нацыянальная зборная не за гарамі.



«Пакрыўдзіла» Андрэя Турчыновіча газета «Все о футболе». Форвард у матчы з «Ведрычам» і пенальці ўзяўся біць, і з гульні гол забіў. Давёў тым самым колькасць забітых у гэтым сезоне мячоў да 8.

А сталічнае выданне маладзечанца ў спісе лепшых бамбардзіраў прапусціла. Затое ўказала колькі прозвішчаў тых футбалістаў, што забілі па 7 галоў.

Чацверты «маладзечанскі» ляп за апошнія чатыры тыдні.



У галоўнага трэнера маладзечанскіх дублёраў імя па бацьку – Пятровіч. Цікава яно трансфармавалася з прыходам у "Славію" югаслаўскага спецыяліста **Улада Петравіча**. Вы здагадаліся, што націск перамясціўся на першы склад. Але не гэта галоўнае. Як толькі югаслаў з трэскам пакінуў краіну, націск у імені па бацьку **Аляксандра Гармазы** зноў апынуўсяна сваім звыклым месцы.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ПРОСТА АНЕКДОТ

– Як адчувае сябе ваш муж? Ён усё яшчэ пакутуе на лунацізм?

– Не, з гэтым, дзякуй богу, скончана.

– Няўжо вылечыўся?

– Ды не. Ён, урэшце, зваліўся з даху.

■ СМАЧНА ЕСЦІ З ІГАРАМ КІЦІКАВЫМ

## Лясныя крэветкі

**ВІЛЕЙКА. Нягледзячы на начныя замарозкі, у лесе добра растуць зялёнкі і радоўкі. Апошнія называюцца так таму, што растуць радамі.**

Некаторыя грыбнікі іх ігнаруюць, а дарэмна. Асабіста я гатую з іх страву пад назвай "Лясныя крэветкі".

Вялікія зялёнкіі і радоўкі пасаліць, паперчыць, папырскаць крэветачным маслам (яго бяру з "Ролтана" са смакам крэветак). З піва, мукі, солі гатую вадкае цеста. У яго макаю грыбы і абсмажваю ў алеі.

Вось і "лясныя крэветкі": унутры смачнае "мяса", зверху таксама ядомы панцыр.

Спяшайцеся, бо 14 кастрычніка – Пакровы. Першы снег і апошнія грыбы.



Фота з архіва Ігара КІЦІКАВА.

Грыбы вядучаму рубрыкі звычайна дапамагае спарадкаваць дачка.

■ 90 ГОД ТАМУ ПРА РОДНЫ КРАЙ Ў «НАШАЙ НІВЕ»

**М. Івянец, Мінск. губ. і пав.** У нашым Івенцы ёсьць пажарная дружына, ды такая што аж сорамна людзям пра яе расказаць. Пад узгоркам, каля возера, стаіць хлявушок, а ў ім увесь пажарны струмэнт, ды яшчэ як на якую пацеху да таго часу былі выбраны члены праўленьня каманды, а камандаваць няма кім, нават на паперы ня лічыцца ніводнага пажарнага ахвотніка. А ў мястэчку, як кажуць, ёсьць каля 500 гаспадароў, і кожны мае будынкі, а крый Бог пажар, вось тады і рабі, што хочэш; будуць усе таўчыся, адзін аднаго пасылаць, ды ганяць без карысьці і толку, як Марку па пеклі. Цяпер івенчане выбралі ў прадсядацелі гэтай дружыны вучыцеля – інспэктара тутэйшага гарадзкога вучылішча В. Кліменку. Усе кажуць, што ён наводзе парадак бо і івенчане знаюць, што ён чалавек сумленны і стараецца з усёй сілы рабіць людзям добра. Вельмі яны, івенчане, дзякуюць таму К-ку за яго стараньне каля аткрыцьця ў нас хаўруснай крамы, дзе торг ідзе бойка.

**Пятрукоў М.**

## ■ КРЫЖАВАНКА

Вадзім ЗУБРЫЦКІ.



**Па гарызанталях:** 3. Падарунак. 7. Сталіца Іспаніі. 8. Венгерскі народны танец. 9. Цяпліца. 13. Імя каралёў сярэдневяковай Францыі. 14. Расліна, якая цвіце раз у жыцці. 16. Прылада для прыгатавання шашлыка. 17. Лятальны апарат. 18. Другі экземпляр. 20. Халодная зброя. 22. Апошняя літара грэчаскага алфавіта. 23. Вясенняя кветка. 25. Перабольшванне. 28. Разнавіднасць хімічнага элемента. 29. У антычным свеце: жрэц-прадказальнік волі бажаства. 30. Шырока вядомы хімічны элемент.

**Па вертыкалях:** 1. Абласны цэнтр у Беларусі. 2. Салдат у султанскай Турцыі. 4. Іншая мова ў адносінах да беларускай. 5. Камень для вырабу скульптур. 6. Род эстраднага танца з высокім падкідваннем ног. 9. Група астравоў. 10. Папулярны беларускі спявак. 11. Шасцікрылы анёл. 12. Захворванне страўніка. 14. Горад на востраве Хансю (Японія). 15. Драпежная рыба. 19. Прылада з маятнікам. 21. Аконныя шторы з пласцінак. 24. Адрэзак, які злучае пункт шара з яго цэнтрам. 26. Матэрыял для пісьма. 27. Земляныя арэхі.

**Адказ на крыжаванку, змешчаную ў №39**



## ■ ЛІСТАВАННЕ

**Наш чытач з Дэнвера (ЗША, штат Каларада) Віктар Русакевіч паходзіць з Маладзечна. У ЗША пераехаў параўнальна нядаўна. Ён піша, што пра жыццё роднага і навакольных гарадоў даведваецца з Internet-версіі "Рэгіянальнай газеты". Аглядавы матэрыял Дзмітрыя Кісялёва (Internet-рэсурс "Собкор.ru", зроблены, у сваю чаргу, па матэрыялах іншага рэсурса – "Прэсцэнтр. Ru") ён прапануе спецыяльна для чытачоў "РГ".**

# Законапаслухмяная краіна

**Каліфорнія:** *аўтамабілям без вадзіцеля ў гэтым штаце нельга развіваць хуткасць больш за 60 міль у гадзіну (90 км/гадз.), людзям жа нельга насіць каўбойскія чаравікі, калі ў іх няма хаця б дзвюх кароў.*

– Што тычыцца аўтамабіляў без вадзіцеля, то з такім самым поспехам можна забараніць палёты на каровах. Чаму б і не забараніць, пакараць жа ўсё адно нікога не давядзецца. А вось пра каўбойскія чаравікі... Калі існавала прафесія каўбоя, то ў некаторых мясцінах ЗША пэўныя элементы адзення сапраўды выкарыстоўваліся для прафесійнай ідэнтыфікацыі, і такі закон мог мець лагічны сэнс. У пачатку ж XX стагоддзя, калі ў выніку вынаходства калючага дроту прафесія каўбоя перастала існаваць (у яе першапачатковым класічным выглядзе), перастаў дзейнічаць і гэты закон. Хаця б толькі таму, што каўбойскія чаравікі перасталі быць носьбітам прафесійных прыкмет.

Гэта ўсё, што тычыцца спадчыны Дзікага Захаду. Справа ж не ў тым, што ў ЗША шмат забаўных юрыдычных анахранізмаў, а ў тым, што гэта традыцыя гэтай краіны, якая ўласцівая і сучасным пакаленням.

Вось прыклад сучаснай заканатворчасці. 12 кастрычніка 2000 года ў Агаё і Каліфорніі прыняты закон, які *забараняе аматарскую відэа- і фотаздымку на вуліцах і ў грамадскіх месцах. Цяпер, калі ў кадр трапіць хто-небудзь без яго дазволу, фатографу пагражае штраф ад 500 долараў ЗША. Цяпер ніхто не можа фатаграфаваць або здымаць на відэакамеру нават прахожых, што выпадкова трапілі ў кадр. Мера пакарання ў выпадку парушэння закона вызначаецца двума артыкуламі: калі вас пры спробе сфатаграфаваць кагосьці заспее паліцэйскі, то давядзецца заплаціць штраф у суме ад 500 да 1000 долараў ЗША; а калі на вас пададуць скаргу за тое, што вы выпадкова (!) або намерана каго-небудзь знялі на плёнку, то вы атрымаеце 6 месяцаў турмы. Варта адзначыць, што ўлады асаблівы ўпор зрабілі на тое, каб гэты закон быў даведзены да ведаму рускіх турыстаў. Яны часцей за ўсё палююць за сенсацыйнымі кадрамі, прычым практычна на ўсіх фігуруюць знятыя буйным планам негры. Гэта ўдалося ўстанавіць па плёнках, якія турысты* аддаюць у праяўку ў гасцініцах.

Ну добра, дапусцім, што гэта вынік жадання супрацьстаяць нейкім неэтычным дзеянням рускіх турыстаў. Але ж закон распаўсюджваецца на ўсіх без выключэння: і на турыстаў, і на мясцовых жыхароў. Забарона на аматарскую здымку ў турыстычных месцах б'е, перш за ўсё, па турызме, зніжаючы прыбытак турыстычных агенцтваў.

З іншага боку, незразумела, якім чынам гэты закон можа выконвацца. У адпаведнасці з федэральнымі юрыдычнымі нормамі, сам працэс фатаграфавання можа разглядацца ў якасці ўмяшання ў прыватнае жыццё толькі ў тых выпадках, калі аб'ект здымкі знаходзіцца ў месцах, дзе недатыкальнасць прыватнага жыцця можа быць, натуральна, чаканай. Публічныя месцы такога статусу ў Амерыцы не маюць. Два законы ўступаюць у яўны канфлікт. Што ж тычыцца здымкі ў публічных месцах, то пакаранай можа быць толькі публікацыя выяў прахожых, якія можна пазнаць, без іх на тое пісьмовага дазволу. І тычыцца гэтае ўжо не ўмяшання ў асабістае жыццё, а аўтарскага права. Такім чынам, новы закон уступае ў канфлікт і з аўтарскім правам на тэрыторыі ЗША таксама.

А вось зусім свежы тэхаскі прыклад, які дастаўся грамадзянам ЗША не ў спадчыну ад Дзікага Захаду, а ад сучасных заканадаўцаў, а іменна ад іх цяперашняга прэзідэнта Джорджа Буша-малодшага, былога губернатара штата: *злачынца абавязаны вусна або пісьмова папярэджваць ахвяру пра злачынства, што мае адбыцца, не менш чым за 24 гадзіны да яго здзяйснення. У такім папярэджанні неабходна апісаць злачынства, якое вы рыхтуеце. Парушэнне гэтага закона суд улічвае цяпер як абцяжарваючыя абставіны.*

**Працяг будзе.**



## Гараскоп 8 – 14 кастрычніка



**Авен**
(21.03–20.04)

У тых з вас, хто пакуль не заняў пэўнанага становішча ў соцыуме, ёсць некалькі дзён сур'ёзна абдумаць свае далейшыя дзеянні. Таму што да 13 кастрычніка трэба будзе канкрэтна вызначыцца са сваім статусам у жыцці, з выбарам прафесійнай дзейнасці і з партнёрам. Менавіта ў гэты час вашыя рашэнні могуць быць абсалютна верныя і разумныя.



**Цялец**
(21.04–21.05)

У пачатку перыяду вам трэба супрацьпаставіць сваю творчую волю і жыццёвы досвед, каб заставацца ўраўнаважаным у чарадзе радасцяў і непрыемнасцяў. А вось 13 кастрычніка вы зможаце ў поўнай меры рэалізаваць рабочыя праграмы, калі яны не будуць арыентаваныя на вялікія групы людзей. Засяродзьцеся на здабычы інфармацыі.



**Блізняты**
(22.05–21.06)

У нейкай ступені завяршыўся этап эйфарыі ад асабістага – сямейнага і сардэчнага – жыцця. Зразумела, гэта не значыць, што ўжо заўтра вас чакаюць спрэчкі, непрыемнасці, але некаторае ахаладжэнне да вас вашых партнёраў адбудзецца. 13 кастрычніка паспрабуйце прыкласці максімальныя намаганні да рашэння вытворчых праблем.



**Рак**
(22.06–23.07)

Дарог шмат, трэба выбраць адну. Але можам вас запэўніць, што да 13 кастрычніка, калі не будуць пераважаць эмоцыі, вы зробіце правільны крок наперад, менавіта па той дарожцы, якая можа прывесці да фінансавага і асабістага поспеху. Адна ўмова: не раскрывайце сваіх планаў заўчасна.



**Леў**
(24.07–23.08)

Раім працягваць інтэнсіфікацыю і ўдасканаленне камунікацыйных навыкаў, і тады да 13 кастрычніка вы зможаце здзейсніць дастаткова заўважны прарыў у справах, прасунуцца да мэты ў патрэбным для вас накірунку. Пры гэтым памятайце, што само сабой нічога не робіцца, і не варта спадзявацца на выпадак.



**Дзева**
(24.08–23.09)

Вам можа здацца, што час рэалізацыі праграм ужо прыйшоў. Так яно фактычна і ёсць, аднак усё ж патрывайце да 13 кастрычніка , калі канчаткова высветляцца стасункі з кіраўніцтвам. Звярніце ўвагу на тое, што сардэчныя справы патрабуюць глабальнай рэвізіі. Уцякаючы ад сябе, вы нічога не дасягнеце. Вырашаць пытанні ўзаемаадносінаў з партнёрам вам.



**Шалі**
(24.09–23.10)

Каля 13 кастрычніка неабходна свядома правесці рэформы, якія тычацца змянення планаў на бліжэйшае будучае і адносінаў да ўласнай грунтоўнасці ў творчым плане. Магчыма, вы перасталі крытычна ставіцца да сябе, а поспех у навакольных прымаеце, як належнае. Увага, можаце прайграць!



**Скарпіён**
(24.10–22.11)

Знізіцца супраціўленне, якое аказвалі вам як людзі, так і абставіны. Вы зможаце накіраваць энергетычныя патокі іншых у патрэбнае вам русла. 13 кастрычніка – апошнія праблемныя сітуацыі, але затое вы адчуеце сябе цалкам інфармаваным, здольным пераадолець усе перашкоды на сваім шляху.



**Стралец**
(23.11–21.12)

Каля 13 кастрычніка можаце рызыкнуць прасунуць якую–небудзь важную творчую праграму, якая тычыцца магчымасці выкарыстання сумесных капіталаў і інвестыцый (як фінансавых, так і інфармацыйных). Надзвычай вялікія будуць шанцы рэалізаваць задуманае.



**Казярог**
(22.12–20.01)

Схіляйцеся ў гэты перыяд да прыярытэтнасці асабістага і сямейнага жыцця. Любыя крокі ў сферы бізнесу і дзелавога партнёрства будуць бесперспектыўныя, і вы толькі згубіце час. А вось унутры вашай "прыватнай" сферы вы можаце знайсці абсалютны спакой і задавальненне, зможаце многае зрабіць у доме, па гаспадарцы і ў індывідуальных праектах.



**Вадалей**
(21.01–19.02)

Да 13 кастрычніка будзе працягвацца перыяд унутраных ваганняў, знешніх страсенняў, паласы непрыемнасцяў і перашкод. Зрэшты, усё гэта, хутчэй, прадукт тыпова асабістай асенняй дэпрэсіі. Вазьміце сябе ў рукі, тым больш, з 13 кастрычніка зменяцца і знешнія абставіны, надыдзе перыяд удачы, застанецца толькі дзейнічаць.



**Рыбы**
(20.02–20.03)

Каля 13 кастрычніка адкрыецца цудоўная магчымасць хуткай рэалізацыі намечаных праграм. Не лянуйцеся, колькі можна! Вы дзейнічаеце з дастатковай доляй спазнення пры прадастаўленні Лёсам вам пэўных шанцаў. Навучыцеся адразу ж здымацца з месца і ісці насустрач поспеху. Вас чакае раман!

Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227, выдадзенае 4.09.2001 г.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **8140 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№40 (337) 5.10.2001.** Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №. Падпісана ў друк у 13.00 4.10.2001

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»